ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem. ЦАНА 30 ГРОШ.

# МАЛАНКА

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

26. XII. 1928 „МАЛАНКА“ СМАЛІЦЬ ШТО ДВА ТЫДНІ! № 13.

## Сель—хадэцкая ёлка.






— Ты трубі, трубі Рагуля, сёньня Коляды для нас. Калі „Ха—Дэкі“ падтрымаюць, пажывём хоць малы час!




# Песьня аб беларускай санацыі.

А цікава, гэта-ж праўда, а ня баечка...
Ну, дык грай-жа, пакуль можна, балабаечка!
Як зьбіралісь малайцы
Усё „праайцы-айцы“
Беларускія „санатары“.
Стаўся дзіўны карагод
Ну, і... рушылі ў паход,
Ды як лоўка, ліха матары!
Яшчэ ўчора на ўвесь сьвет,
Во я сам на‘т чуў з газэт;
Чуў, бо маю проста спрыт вушкі:
„Гэй, народ наш, мы твае“!
„Нам пал жару паддае“
„Вызваляць вас ды з нядолюшкі“.
Так крычэлі малайцы
Усе „праайцы-айцы“
Беларускія „санатары“.
— Усіх, браткі, у рай махнём,
Дзе кісель ды з малаком!
О, мы зробім... мы аматары...
—Так, працоўныя браты,
Мы ж таксама з галіты —
Хай віхор шалее, рве, сьвішча!
— Застанемся без галоў
А т‘кі звалім з плеч далоў
Вашых бедаў цяжар-носішча
Й пакіруем мы тады
Лёс сюды свой і туды...
*Землягорскім, собскім* лапішчам!
Будзе хлеба і да хлеба
Бульбы, маку, ўсё што трэба.
Кінем з голаду, браткі, пішчаць...
Тут дарэчы трэ‘ сказаць,
Што й тады было відаць
У „санатараў“, што ўздым-парыў,
То гульня у „чапуху“
(Адзін Бог знаць без граху).
Ажно воўк і... зубкі вышчарыў!
А, цікава гэта-ж праўда, а ня баечка...
Ну, дык грай-жа, грай-жа далей, балабаечка.
А ўжо сёньня — баю, баю!
Чутно музыку другую...
Мас працоўных „абаронцы“
У падвойнае ваконца
На браткоў глядзяць, сьмяюцца...
. . . . . . . . . . . . . . .
Далей граў-бы — струны рвуцца...
Эх, прыўлару, запяю
Ім я песенку сваю!
Датрымае мо струна...
— Ёсьць дарога ім адна,
Гэткім „збаўцам, змагаром“!
...Пішчаць словы пад пяром...
Ды баюся гаварыць,
Каб бяды не натварыць...
Лепш скажу ім... марш туды,
Паўлючковы дзе сьляды!
Там і Тодар ўжо пайшоў...
Ды шмат іншых „дзеячоў“...
А цікава, гэта-ж праўда, а ня баечка...
Ну, на гэты раз мо‘ й будзе, балабаечка!

М. Васілёў

# Здурнець можна!




**Селянін** (*чытае газэту*):—Што, што, што гэта за словы нейкія: *сьціпюбства, спабыць сьці, начуліпіча, надгарода, як-га,... сябрыня...* Нічога не разумею; ці я—вар'ят, ці той—вар'ят хто пісаў?...

## Конфіската.

По загаду п. Старосты Гродзкага на м. Вільню 24/XII 1928 г. сконфіскованы № 12 „Маланкі" за верш Улад-Ініцкага „Як для пана ні старайся" і жарты: „Сьвяточныя падарункі для беларускіх дзеячоў".

*Для ўвекавечаньня памяці „Наўчонага Спадара" гэту байку зьмяшчае.*
**„Маланка".**

## Дыплёмаваны баран.

Надоечы ў знаёмых быў я хутаран,
Дык там здаровы ёсьць баран.
Разумных бараноў наогул-жа нямнога,
А гэты, дык дурней дурнога—
Не пазнае сваіх варот:
Відаць, што галава слабая,
А лоб, дык, вось, наадварот;
Такога не страчаў ніколі лба я:
Калі няма разумніка другога,
Пабіцца каб удвух,
Дык ён разгоніцца ды ў сьцену—бух!
У іншага, дык выскачыў-бы й дух,
А ён нічога.
І вось за дурасьць гэту
Яго вучоным раз назвалі нек насьмех,
А каб двара не перабег,
На шыю прывязалі мету:
— Вось, кажуць і дыплём табе.
Што гэта за дыплём, баран—ні „мя", ні „бэ".
Аднак-жа, перад кошкаю пачаў ён ганарыцца:
— А што-ж ты думала, сястрыца,—
Хіба мне пахваліцца няма чым?
Дыплём я заслужыў, здаецца-ж, галавою
І не раўнуйся ты са мною.
— Аб гэтым лепей памаўчым,—
Сказала яму кошка,—
Каб ты быў разумнейшы трошка
Ды розумам раскінуць мог авечым,
То ўбачыў-бы, што ганарыцца нечым,
Бо заслужыў ты свой дыплём
Не галавой, а лбом.

Другі баран—ні „бэ", ні „мя",
А любіць гучнае імя...

**Крапіва.**

### Зрабіў кар'еру.

— Што цяпер робіць ваш сын? Як яму цяпер жывецца?

— Ого, вельмі добра! Як да Вільні йшоў, дык навет ботаў ня меў, а цяпер па месяцы самаходам разьяжджае.

— Якім-жа гэта чынам разбагацеў?

— Ды ён у шофэра за памоцніка вучыцца.

### Хітрае дзіця.

Матка злавіла малога Яначку на ілжы і кажа:

— Стыдна табе, ты такі малы, а ўжо маніш!..

— Дык ты, мама, пазьней за мяне маніць пачала?!.

### Добрыя рады для жаніхоў.

Калі сустрэнеш вельмі прыгожую дзяўчыну, дык не сьпяшыся з жаніцьбай, бо можаш сустрэць яшчэ прыгажэйшую.

Калі сустрэнеш вельмі добрую дзяўчыну, то памятай, што добрасьць ня мае граніцаў і можаш сустрэць яшчэ дабрэйшую.

**„Зиз".**

### У пекле лепш.

На куцьцю перад Калядамі забабонныя бабы стаўляюць стравы на нач на стале, верачы, што душы нябожчыкаў-сваякоў прыходзяць у госьці і частуюцца.

Да аднэй такой бабы залез уночы злодзей да хаты і частуецца. Прачхнулася баба і бачыць—нехта за сталом сядзіць.

— Гэта ты, Васіль,—спыталася яна, думаючы, што гэта яе нябожчык-муж.

— Я...

— А як-жа табе на тым сьвеце?

— Добра, лепш, навет, як з табой разам.

— То ты, пэўне, у небе?

— Не, у пекле.

**Г. Г.**

## Ад'знака.



— Чаму вы ў лазьні партфэля не кідаеце?

— Нашто-ж яго кідаць, а хто-ж пазнае, што я за войта выбраны...

# Маланчына люстэрка

Паглядзеце у люстэрка,
Беларускія паслы;
І пакажа яно проста
З вас якія дзеячы.
І калі яно прыпадкам
Адаб'е на кім прышчак,
Пастарайцеся зьлячыці —
Не астаўся каб і знак.

Беларускі Клюб Пасольскі
Дзіўны згодніцтвам сваім.
Ціхамірных і лой-яльных
Дзеячоў шасьцёх у ім.



Залажыўшы Гаспадаркі
І Культуры Інстытут,
Пан Ярэміч на тым пузе
Росьціць сала трэці пуд.
Што там справы Сель-Саюзу,
Каб дыетаў больш схапіць,—
Трэ'-ж калёнію другую
Дзе абнюхаць і купіць.



А Стэповіч і Каруза
Арганістымі былі,
Дык за йграньне і пяяньне
Бог упёр іх у паслы.



І цяпер-жа мітынгуюць,
Хваляць Бога й Бэ-Ха-Дэ...
Вы-ж іх слухайце, сяляне,
Кожны ў неба пападзе.



Каб Рагулі ня Лукішкі,
У Сэнат-бы ён ня ўлез,
А папаў, дык на‘т ня пікне,
Хоць вядзі ты пад зарэз.
Як паслом быў, дык патроху
Варушыўся і гукаў,
А цяпер у тым Сэнаце,
Як гавораць, „бабай стаў“;

## Паліцэйская рэпутацыя.

Каля касьцёла сабраўся натаўп. Праходзіць цікавы і пытаецца ў хлапца:

— Скажы, малы, чаго гэта народ сабраўся?

— Паліцыянт з касьцёла дзяўчыну павёў.

— За што?

— Як, за што?—Ажаніўся з ёю.

# Як Галюк санацыі шукаў.

Седзячы ў глухой вёсцы, Міхась Галюк дачуўся пра сваю беларускую санацы- і пастанавіў адведаць яе.

Прыехаў у Вільню.

А трэба сказаць, што калісь у вялікую вайну Галюк невялічкім яшчэ хлапчуком аж у Казаншчыну, як уцякач, папаў.

Тамака падвучыўся: нейкія настаўніцкія курсы прайшоў.

Пасьля вучыў сабе, якія пападаліся на яго долю, ўсе сіроты казанскія гадоў пару і нават шчыра працу сваю палюбіў.

Вярнуўшыся з уцекачоўства, Галюк таксама настаўнікам хацеў быць на Бацькаўшчыне.

Ой, як хацеў!

Колькі парогаў наабіваўся ў школьных інспэктароў, беларускія курсы ў Вільні для настаўнікаў у 1921-м го зе праслухаў.

Нічога не памагала.

І ў вёсцы сваёй, праўду кажучы, Галюк даволі ціхенька сядзеў.

Нават да „Грамады“ не належаў.

Асьцерагаўся.

Ну, і пачуў ён вось, што ёсьць недзе ў Вільні свая родная беларуская санацыя, якая, як здавалася яму, усё гэтак перасанацуе, што й не пазнаеш.

Дык і прыпёрся, значыцца, Галюк аж у Вільню.

Тыц у адну беларускую кнігарню:

— Скажэце, браткі, дзе тут гэта нашая санацыя?

— А хто яе ведае, — пачуўся адказ.

Галюк у другую кнігарню:

— Хто-ж тут санацыю нашу робіць?

— Дакладна невядома, — ізноў чуецца адказ.

Галюк чэша ў коопэратыўны беларускі банк.

Там ён застае адну толькі нейкую паню:

Панечка, можа Вы ведаеце што пра санацыю?

— Якую?

— Ды нашу... беларускую...

Нічога пэўнага сказаць Вам не магу,—адказвае зьдзіўленая пані,—хіба ў гімназію зайдзеце...

Сэкрэтар гімназіі яшчэ больш быў зьдзіўлены Галюковаю візытаю, як тая пані з Банку, і нічога пацяшальнага Галюку не сказаў.

Стаў Галюк каля кнігарні нашае, недалёка ад гімназіі ды раз-



Баргдановіч лётаў, падаў
Са сваім Бэ-Пэ-Дэ-А,
Апыніўся-ж у Сэнаце,
Дык усё там трын-трыва:
І сяляне й праваслаўе,
Край там нейкі Беларусь:—
*„Бог царя скорей послал-бы
Воскресил-бы нашу Русь“*!



Стаў паслом Ігнат Дварчанін
Абаронцам беднаты...
І працуе і працуе—
Аддыхнуць няма калі.
За работнікаў, сялянаў,
Прост гарою, ён стаіць
Бо няма каму другому
Шчыра ў Сойме бараніць.



Ёсьць яшчэ пасол сялянскі
Барадаты Валынец,
Што са „Зьвязам“ разьвязаўся,
З „Спадаром“ зрабіў канец.
Ён убачыў праўды сьветач
І да шчасьця просты шлях,
Дык імкнецца з усей сілы
Стаяць цьвёрда на нагах...



А філёлёг наш Станкевіч,
Што завецца „Спадаром“,
Хоць папаў у Сойм, у людзі,
Астаецца-ж „дзікаром“,
Але ходацца як, цяміць:
Розных „Зьвязаў“ навязаў
І падпанкам, хоць культурным,
„Выкладаць“ язык свой стаў.



А Гаўрылік Радашкоўскі
Дзетак грамаце вучыў,
Так і жыў-бы, але раптам
Лёс паслом яго зрабіў,
Ў Сойме ён сялян бароне,
Ёмка сварыцца, крычыць,—
Выбіральнікам даводзіць
Што паслом нялёгка быць...

Пас. ГРЭЦКІ ў рэдакцыі „Маланкі“ да тэй пары *„не замэльдаваўся“*, з тэй прычыны люстэрка яго твару не адбіла.

Янка Грэцкі ў Сойма-залю
Трапіў проста ад сахі,
Дык з напасьцяў як-бы з хваляў
Выплывае ўсё сухі.
Запальчывы і агністы,
Баявы, як той арол;
Яго брудзяць, а ён чысты
Паляшуцкі наш пасол!..

**Рамка.**

---

глядае сабе кніжкі, што зіхацяць у вакне сваімі новенькімі вокладкамі розных колераў.

Аж чуе наш быўшы настаўнік, як каля яго праходзяць, згорбіўшы плечы ад холаду, нейкія два нашыя працаўнікі віленскія (па гутарцы пазнаў).

Глядзіць Галюк на іх, зачапіць не адважваецца.

Крануўся і пабрыў сьледам за імі.

Хлопцы бойкія, хоць і ў пацёртых польтах, у зашмальцованых капялюшох і ў ботах, багата ўжо палатаных.

Зараз за вуглом гэтыя малайцы шусь у нейкія дзьверы.

Зыйшоў Галюк з тратуару, глянуў на шыльд:

„Jutrzenka“...

У вакне дзьве булкі, гурба скрынак ад шакаляды і два пірожныя.

Палез і Галюк у дзьверы. Перад вачыма ў яго кавярня. За столікамі людзі палуднуюць. Над галовамі ў іх туманом стаіць сінісіні (бы той лес родны, далёкі) густы чадны дым; але тых двох працаўнікоў беларускіх Галюк усё такі пазнаў.

З гаспадаром кавярні віталіся.

Сеў наш Галюк, папрасіў даць палудзень. Хутка з гаспадаром і з яго гасьцямі беларускімі разгаварыўся.

Выпілі піва. Аб тым, аб сім пабедавалі ...

І гэтак Галюк аж да вечару ў „Jutrzency“ прасядзеў, пакуль не надыйшоў час на вакзал ісьці.

Як ні цікавіўся гаспадар, скуль Галюк, чаго да Вільні прыехаў, а праўды ад яго не пачуў.

Ужо зусім на адходзе Галюк прызнаўся:

— Вось, ведаеце, цэлы дзень змарнаваў, санацыі сваe шукаючы: думаў мо' ў настаўнікі мне папасьць паможа... Але мусі плёткі ўсё гэта аб ёй?

— Пачакайце, — кажа ўласьнік кавярні, — яшчэ ніхто нічога ня робіць... Нешта-ж будзе...

„Чакай, куме, Пятра — сыр зьясі“ — прыпомнілася Галюку.

І з гэтай думкаю ён разьвітаўся з „Jutrzenkaj“ і з Вільняй, вяртаючыся да цеснае бацькавае хаты, на родныя загоны.

Седзячы ў цягніку, задрамаў Галюк.

Аж тут нейкі прарочы голас шэпча яму:

— Дарма ты, хлопча, шукаў яе:
Яшчэ-ж нядаўна выседжаная...
Пер'ем не абрасла...
На сьвет Божы вылезьці сароміцца.

**Picolo.**

# Народны Гумар.

## „Цуд на Крэсах“.

Паліцыя, абходзячы вёскі, загадвала, каб сяляне бялілі хаты з надворку.

(*З газэт*).

Як у Польшчы — я ня знаю,
А на „Крэсах“ тут,
Я, вось, крэйду ўжо купляю,
Ды бялю свой кут!

Дык няма чаго дзівіцца,
Як рабіць да толку;
Але, вось, каму прысьніцца,
Каб бяліць з надворку?..

Ўсім у вёсцы *„юж мувёно:*
*— Пан бэндзе караны*
*Гды з зэвнэнтша не белёно,*
*У халупах сьцяны“...*

Глянуў я, а у Сямёна,
Ужо хата бела!
На калу сядзіць варона,
З дзіва аж самлела...

Хай Эўропа тое знае,
Што ня даў ён маху;
„Цуд“ знадворку ужо зьяе,
Ад зямлі, да даху.

Крапле дожджык, падсявае
І я *„тэм юж“* мажу;
Дождж да чыста ўсё змывае,
Я пад стрэхай лажу.

Дык купіўшы вапны *гуры,*
Споўнім мы законы;
Будзем „цуд“ рабіць культуры,
Хоць... з *„зэвнэнтшнэй строны“!*

**Бух-Бом.**

## Вялікае няшчасьце.

— Кіньце, пані, так плакаць-забівацца, матка ваша ўсё роўна з таго сьвету ня прыдзе, яна ўжо была вельмі старая, — прышла пара і памёрла...

— О, дайце-ж мне спакой! Я па маме зусім і ня плачу, — вось мая „Азачка“ трэці дзень дзесь загінула і мне яе шкада: — яна была праўдзівай ангельскай крыві...

## Сіла прызвычаеньня.

**Паштальён:** — Маю для вас пісьмо, але трэба заплаціць 50 грошай штрафу, бо яно цаплатное.

**Селянін:** — А ці ня можна-б было мне іх адсядзець?

## У шаўца.

**Паліцыянт:** Ці ня маеце гатовых ботаў?

**Шавец:** — Калі ласка. А які нумар носіце?

**Паліцыянт:** — 5268.

**„З и з“**

## Свой свайго не пазнаў

... Таксама каталіком не дазваляецца выпісваць, чытаць, распаўсюджваць, супрацоўнічаць, альбо як-небудзь іначай падтрымліваць часопісь пад назовам „Biełaruskaja Krynica“.

„Dzien. Wil. № 283“.




А сам біскуп „бачыць“ з неба,
Што „Krynicу“ ўжо ня трэба...

## Баіцца, як агню

— Кажуць, што сінія кветкі ад кашлю памагаюць.

— О, не кажы ты мне пра гэтыя кветкі, — мяне жонка імі ад п'янства лячыла, а я, як піў, дык і п'ю.

## Ходзяць чуткі.

— Кажуць, што „Спадар“ Янка з кампаніяй хоча ў Вільні нейкую коопэратыву залажыць. Цікава, што гэта будзе за коопэратыва?

— Не коопэратыву, а краўцоўню супакойваючых сарочак для вар'ятаў.

— Э, нічога з гэтага ня будзе, — хутка збанкрутуюць.

— Чаму?

— Увесь запас сарочак для самой кампаніі разойдзецца, а больш ніхто купляць ня будзе.

**Янка Няшчасны.**

## Элегія.

„Чым пачынаці пісаці“? —
Ў галаве думка скрабе;
Рондо, тэрцыны, сонэты
Штосьць ня цікавяць мяне.

Ўсе ўжо прыеліся формы,
Новых ня выдумаў йшчэ,
Думкі-ж вірують, бушуюць
Ў беднай маёй галаве.

Хочацца ехаць у „рыгу“
Ад нявымоўнай нуды;
Зьеў-бы, здаецца, на'т жабу,
Каб як пазбыцца бяды.

Просіцца-ж бо на волю
Зьедзены мной селядзец,
Ў кішках маіх барукаецца
Нейкі нязнаны барэц.

. . . . . . . . . . . . .

Што-ж надрываю я грудзі,
Кідаюсь, бы ў страшным сьне?
Не зразумеюць то людзі —
Камень перш пойме мяне!

**Чэх.**

## Шчасьлівая.

— Вы чулі, нядаўна ў Вільні адна дзяўчына праспала 20 дзён і нічога ня сталася.

— Вось шчасьлівая. Дваццаць дзён спаць і ня думаць аб тым што трэба есьці, плаціць падаткі і інш...

## Зарабляе.

— Чаму гэта Рыгора ня відаць?

— А ён у гміне зарабляе.

— Якім чынам?

— Ён мусіў сто злотых штрафу заплаціць, дык замест грошай дзесяць сутак у арэшце адседжвае. Па дзесяць злотых у дзень — гэта не малыя заработкі!

## Добры майстра.

— А, мая-ж сястрыца, даўно я цябе бачыла. Хваліся, родненькая, што ў цябе чуваць?

— А нічога, дзякаваць Богу, дачушку замуж адлала...

— А-яй, вось ня чула! За каго-ж гэта?

— Вельмі добры майстра-верацёньнік... Працуе, зарабляе, — хай сабе жывуць шчасьліва...

— Вось гэта добра. Трэба будзе яго папрасіць, можа мне колькі верацёнаў зробіць.

— Чаму-ж не, сястрыца, толькі вось ён новых рабіць ня ўмее, а ўсё ў старых канцы завострвае.

**К. Зерня.**

# „Сяляне“ слухаюць радыё.

Міністр Складкоўскі выдаў загад, каб у кожнай валасной канцалярыі быў радыё-апарат.

*(З газэт).*



**Войт да пісара:** — Слухайце, пане Падлізайскі, слухайце,— хай пан староста ведае, што мы Варшаву слухаем...

## Ні добра, ні дрэнна.

(З Руданьскага).

— „А дзень добры“!..—„Добры
дзень“.
— „Што ты так зьмяніўся“?
— „Ня дзівіся, сваце мой...
я ўжо ажаніўся“.
— „Слава Богу, мой браток“!
— „Не, ня слава Богу:
Жонка брыдкая, аж страх,
І крывель на ногу“.
— „Гэта дрэнна, мой браток,
— „Вось ня дрэнна, сваце,
Бо за ёю ўзяў пасаг,
Страшнае багацьце.
Гаспадарку я падняў
І ўсяго меў многа“
— „Слава Богу, мой браток“,
— „Не ня слава Богу.—
Гаспадарка ў прах пашла,
Ўсё гарэлка зьела,
Ў хаце здарыўся пажар
І да шла згарэла“.
— „Гэта дрэнна“—„Вось і не!
Хата як гарэла,
Дык і жонка у агні,
Сваце, акалела“.

У. І.

## Помач не патрэбна.

— Як-жа вы тут жывеце? Няма ў вас а ні доктара, а ні фэльчара.

— Скуль нам мець, — мястэчка беднае. Вось так і паміраем без нічые помачы.

## Адз'н — у плот, другі — ў гарод.

У вёсцы М... ставілі п'есу „Антон Лата“. На другі дзень прыходзіць паліцыянт сьпісаць пратакол і пытаецца ў гаспадара памешканьня:

— Тут быў учора Антон Лата?

— Не, ня было.

— *Кламеш, в папежэ выразьне, як бык, стоі,* што быў.

— Усіх хлапцоў бачыў: і Рыгора і Васіля, Юрку, Тамаша, Антося Грэчку, а ніякага Латы ня бачыў.

— *Пэўне укрываш ідзе, зараз мешкане зрэвідуе і знайдэ.*

— Шукай сабе, дзе хочаш.

— *А то цо?* — пытаецца паліцыянт, паказваючы на кніжку з п'есамі.

— Ну што?—кніжка. А што ў кніжцы я не ведаю, я — чалавек няграматны.

## З падслуханага.

### 1. „Кулак“—дабрадзей.

Багаты селянін („кулак“) Даніла Трыбухаты радзіў беднаму Рыгору:

— Даражэнькі мой, кінь невясёлыя думкі! — Ты бедны, зямля твая не загараная і жыта ў цябе на зіму не засеяна. Каб ня было мяне, ты-б даўно прапаў, але, слава Богу, я ёсьць. Аддай ты сваю зямлю мне ў арэнду. Я — заўсёды беднаму памагу. Я за цябе і загару і засею...

*(А сам сабе думаў):*

... Я за цябе і ўраджай зьбяру. Ну, дам табе пуды са тры жыта і хопіць табе, — нашто беднаму болей. А мне трох пудоў ня шкода...

### 2. Памыліўся.

Войт Межы—цкай гміны каяўся перад сялянамі:

— Быў перш у мяне такі грэх, памылка выйшла,—казаў ён: — даваў я пазыкі не сялянам, а сваяком: свату даў, сватаваму дваюроднаму брату даў, сватаваму пляменьніку пазычаў... Ну, а цяпер, калі мяне падтрымаеце, больш гэтага рабіць ня буду ..

*(А сам сабе думаў):*

... цяпер я толькі самым блізкім сваяком пазыкі даваць буду. На што мне сват,—калі у мяне самога і родныя браты, і дзядзькі, і пляменьнікі ёсьць.

### Сучасныя дзеці.

— Марылька, нядаўна бусел прынёс табе малога браточка. Хочаш яго паглядзець?

— Блатоцка—не, а бусла з плыемнасьцяй.

### Падабрэла.

— Цікава, чаму гэта Зоська Любецкая перш ня любіла Ганны Кукушкі, а цяпер з ёю падружылася?

— Нічога дзіўнага: Ганна-ж нядаўна акушэрскія курсы скончыла.

— Ну і што-ж?

—На ўсякі выпадак знаёмства з акушэркай Зосьцы не зашкодзіць...

### Цудоўнае дзіця.

— Ці чулі, наш Янчака знайшоў на вуліцы залаты гадзіньнік.

— Ня можа быць, ён-жа такі малы!

— Нічога дзіўнага. Але што з яго будзе, як ён падрасьце?

### Няспадзявана наткнуўся.

— Чаго гэта твой лоб увесь у сінякох?

— Учора я позна вярнуўся да хаты і... неспадзявана наткнуўся...

— На вушак?..

— Не, на жонку.

# НАША ПОШТА.

ooo **Ал. В.** Фэльетон „Звычайнае“ добры і стыль прыгожы, толькі мала гумару і пахнець конфіскатай. Першая Ваша спроба ў кошык. Пішэце больш гумарыстычна.

ooo **Бух-Бом**: З Вашых вершаў падходзіць толькі „Цуд на Крэсах“, а на рэшту і артыкулаў у Кодэксе Карным ня хопіць. На пісьмо Ваша дадзём адказ па пошце.

ooo **Алеся Ц.** Вы прыслалі нам свой верш „Што рабіць“? І мы таксама доўга думалі над ім, што рабіць? і... ў кошык! За такія думкі, як у Вас, адразу без „пардону“ на „Лукішкі“! А апрача таго да „Маланкі“ не падходзіць,—няма гумару.

ooo **Хільман**: Жарты Вашы старыя і ўсім вядомыя. Верш даўгі і няцікавы. Прысылайце жарты з сучаснага жыцьця.

ooo **Міз**: Вось невялікая частка з Вашага вершу „Як я стаўся панам“:

*„... Але-ж то глупства, што пазычыў,*
*„Толькі абы ехаць,*
*„Ды ў гасьціну чаканую*
*„Нарэшце заехаць“ ...*

Ні складу, ні ладу, ні тэхнікі, ні стылю... У кошык!

ooo **У. Б—ч.**: Верш „Вечар у Вільні“ неактуальны і несэзонны, дый гумару зусім няма. Пішэце на сучасныя тэмы.

ooo **Д. Ю.**: Падобныя да Вашых жартаў былі ўжо зьмешчаны ў „Маланцы“, рэшта Вашых жартаў старыя і ўсім вядомыя.

ooo **К. Зерня, Махні-Драла, Міз**: Некаторыя з прысланых матар'ялаў пасьля належнай апрацоўкі будуць зьмешчаны ў наступным нумары „Маланкі“.

ooo **Вясковы Біч**: Ваш фэльетон „У спадаровым начулішчы“ добры, але шмат страціў на актуальнасьці. Пастараемся тэму Вашу выкарыстаць для іншага фэльетону.

ooo **„Покліч“** Ваш верш „Як пан аграном закладаў Культуру“ прыдзецца значна скараціць і адшліфаваць. Зьмесьцім у наступным нумары. На другі раз старайцеся самі добра апрацоўваць свае творы.

# Вясёлы проект.



Адзін з новых спосабаў ратунку ад кватэрнага крызысу.

ooo **Ша—лай**: Ваш жарт „Ня любяць граматнага солтыса“ ня мае вялікшага грамадзкага значэньня. Аб солтысе В. Дур—ку мы ўжо раз пісалі і ня хочам другі раз рабіць яму лішняга гонару.

ooo **Я. Зычны**: У адказ на Ваш „верш“: „Як я лётаў на аэроплянe“ адкажам коратка, што калі Вы так лётаеце, як „вершы“ пішаце, дык доўга Вам не пажыць на сьвеце.

ooo **Кастусь Залівайка**: Шкада нам Вас, гр—н Залівайка. Вы ў сваіх жартах апісваеце, як гулялі тры дні ў рэстаране, дзе „пілі, елі, весяліліся“. Радзім такія жарты пасылаць у „Сьпіртавы Манаполь“, — м'о Вам за гэта нагароду дадуць. Замест гуляньня лепш падпішэцеся на „Маланку“... і прыямней і здаравей!

◆◆◆ **Малады Пясьняр**: Замест марак на заказное пісьмо Вы маглі купіць сабе цукеркаў, або білет да кіна. Ня варта, пакул што, прысылаць сваіх „вершаў“. Трэба шмат працаваць, працаваць, працаваць, каб з Вас выйшла што путнае.

ooo **Чыркун**: Вы пішаце:

*„Мне баліць галава,*
*„Матка стогне на печы,*
*„Бацька крэкча з нагой,*
*„Дзеду коліць у плечы“...*

Хутчэй клічце доктара! Мы нічога ў гэтым не паможам.

ooo **Браніслаў Хэлмоўскі**. Перасылкай кніжак і календароў не займаемся. Пісьмо Ваша перадалі ў Беларускую Кнігарню.

ooo **Язэп Рэдзька.** Беларуская Кнігарня (Вільня, Вострабрамская № 1) нас паінфармавала, што кніжак і беларускіх календароў у крэдыт не высылае. Адрыўны календар каштуе 1 зл. 40 гр. Календар-кніжка 2 зл. 50 грош. Кошты перасылкі залежаць ад колькасьці экзэмпляраў.

ooo **Ю. Чайкоўскі і іншыя**: Камплекты „Маланкі“ за 1928 год выйдуць у канцы студня 1929 г., аб чым будзе паведамлена ў газэтах і ў „Маланцы“.

**Просім паважаных нашых падпісчыкаў з пачаткам Новага Году аднавіць падпісную плату.**


Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:

**ЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 2**

„МАЛАНКА“



ПАДПІСНАЯ ЦАНА;

на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „

За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес,—50 цэнт.

Друк. Крэйнэс і Кавальскі. Вільня, Вялікая, 39.